РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Жыве Беларусь!

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Дык жа будзь! На Беларусі -- беларусы жывуць! Янка Купала

Той час, калі знікае лісце,
Завецца восенню ў прыродзе.
Той час, калі знікае сонца,
Завецца прыцемкам у нябёсах.
Той час, калі знікае вецер,
Завецца нерушам у хвалях.
А як назваць мне, беларусу,
Той час, калі знікае мова?
Няма на свеце гэткай назвы,
Бо як знямее мая мова,
Чым выкажу, што я жывы?

*Яўген Пясецкі*

Выдаецца са снежня 1994 года.
№22 (54), кастрычнік, 2000 года.
Кошт па дамове

## ЦЫТАТА НУМАРА

**СТАТАК БАРАНАЎ НА ЧАЛЕ СА ЛЬВОМ МАЦНЕЙ СТАТКА ЛЬВОЎ НА ЧАЛЕ З БАРАНАМ**

*Усходняя мудрасць*

## Педагогаў не хапае

**Сёння ў школах, ПТВ і дзіцячых садках сталіцы звыш тысячы вакансій. Прафесія педагога не лічыцца прэстыжнай і ідуць у школы працаваць тыя, каму больш недзе дзецца.**

«Нищий учитель -- позор нации!» -- пад такім лозунгам быў выстаўлены 1 верасня ў Віцебску пікет. Група маладых настаўнікаў пратэставала супраць «издевательской» зарплаты ў 15-20 тысяч рублёў. Па словах пікетчыкаў, яны зайздросцяць тым сваім калегам, якія перакваліфікаваліся ў сакратароў, бармэнаў, менеджэраў і атрымоўваюць па 150-200 тысяч рублёў у месяц. Нягледзячы на мізэрныя заробкі настаўнікаў і на несвоечасовую іх выплату, 2000-2001 школьны год аб`яўлены годам якасці. «Але якасць адукацыі і жабрацтва настаўніка -- рэчы несумяшчальныя»,--сцвярджалі пікетчыкі. Як вынік, 40% медалістаў гэтым летам не пацвердзілі сваіх ведаў пры паступленні ў ВНУ, 15% медалістаў атрымалі двойкі.

*Л. Сіманаў, БелаПАН*



Фота Ул. Скрабатуна

## Вучоба пачалася з поля

Толькі 2 кастрычніка пачаліся заняткі ў 267 першакурснікаў, залічаных у Пастаўскі прафесійна-тэхнічны ліцэй. Усяго з ПТУ у 7 гаспадарак раёна выязджалі на працу 400 навучэнцаў. З Мінска на падмогу калгасам і саўгасам прыязджалі 300 студэнтаў БДТУ. Акрамя таго, два тыдні вялі «барацьбу за ўраджай» вучні 8-11 класаў школ раёна. Раней-шае мясцовае начальства выганяла на палі і меншых, што ніяк не стыкавалася ні з заканадаўствам, ні са здаровым сэнсам. Дарэчы, дзеці-суседзі, літоўцы,латышы ды палякі, даўно забыліся на падобную працоўную павіннасць.

*У. Шык*

## Смерць на чыгунках

13 чалавек загінула сёлета на чыгунках толькі на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Толькі ў канцы ліпеня -- пачатку жніўня пад калёсамі цягнікоў памерлі дзве жанчыны і мужчына. Гэта адбылося на стацыях Лёзна, Лоўша, Багушэўск. Большасць ахвяр чыгункі -- пенсіянеры.

*А. Пукшанскі*

## Здарэнні на глебе кахання

У вёсцы Асінградок Пастаўскага раёна ў сваёй хаце быў знойдзены труп адзінокай 58-гадовай пенсіянеркі. Прычына смерці ўстаноўлена: рэўнасць.

Забойства здзейсніў аднасяльчанін, 68-гадовы пенсіянер. Не дачакаўшыся ўзаемнасці, мужчына расправіўся з каханай. Трагікамічная развязка любоўнай драмы адбылася і ў Бабруйску. Непрацуючы, 48-гадовы жыхар горада, вечарам зайшоў да суседкі, 39-гадовай работніцы завода «Аграмаш». Што адбылося паміж Ім і Ёй невядома, але Ён дастаў гранату і ... адбыўся выбух. Ад Яго мала што засталося, а Яна знаходзіцца ў бальніцы.

*С. Рыснік.*

## Медалісты не падвялі

З 19 залатых медалістаў Глыбоччыны толькі адзін не пацвердзіў свае веды пры паступленні. Астатнія сталі студэнтамі прэстыжных ВУЗаў: БДУ, сталічнага эканамічнага універсітэта, Віцебскага медыцынскага і іншых.

Вось ужо пяты год школы Глыбоччыны ўдзельнічаюць у эксперыменце па дыферэнцыяцыі вучэбнага працэсу. Нават у сельскай мясцовасці працуюць ліцэйскія класы, класы з паглыбленым вывучаннем некаторых прадметаў, а ў Празароцкай СШ ствараецца школа народнай і нацыянальнай педагогікі.

## Не размінуўся з камбайнам

Сапраўды, ад смешнага да сумнага -- адзін крок. Па ўласнай дурасці на днях ледзь не пазбавіў сябе жыцця жыхар вёскі Заборцы Докшыцкага раёна К. Знаходзячыся вечарам у раёне чыгункі Параф`янава, ён пачаў перабягаць вуліцу перад камбайнам. Не заўважыць такую грамадзіну, як камбайн, мог толькі п`яны чалавек. Каб не пільнасць камбайнёра, ад пешахода засталося б толькі мокрае месца. Зараз гэты пешаход, які трапіў пад жатку, лечыць у бальніцы рассечаны лоб і сатрасенне мозгу.

*У. Шык*

## Віцябчанін у ролі Карлсана на страсе

Вечарам 18 верасня супрацоўнікі міліцыі ўгаворвалі п`янага віцябчаніна яшчэ крыху пажыць на гэтым свеце. Гэты «Карлсан» залез на страху дзевяціпавярхоўкі і спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Перамовы з мужчынам скончыліся паспяхова -- яго знялі з вяршыні і перадалі брыгадзе «хуткай» дапамогі. За два апошнія гады 179 віцябчан добраахвотна развіталіся з жыццём.

## Смерць не глядзіць на гады і заслугі

20 верасня, вечарам, памёр другі касманаўт планеты Герман Цітоў. Смерць надышла ў выніку атручвання ўгарным газам, калі касманаўт быў ва ўласнай сауне. Толькі некалькі дзён назад яму споўнілася 65 год. У жніўні 1961 года ён здзейсніў другі ў гісторыі чалавецтва касмічны палёт (першы на рахунку Юрыя Гагарына). У апошні час Герман Цітоў быў дэпутатам Дзярждумы.

*Л. Шпак*

## Усяго патроху

■ 11 верасня каля адзінаццаці вечара пры праездзе картэжа прэзідэнта Расіі з Крамля ў раёне Трыумфальнай аркі адбылося сутыкненне аўтамабіля «Жыгулі», які парушыў правілы дарожнага руху, з аўтамабілем суправаджэння. Машына суправаджэння перакулілася.

■ Жонка прэзідэнта ЗША Хілары Клінтан стала першай ледзі, якая выйграла прамежкавыя выбары ў сенат кангрэса ЗША сярод прэтэндэнтаў-дэмакратаў і афіцыйна стала кандыдатам ад дэмакратычнай партыі на пост сенатара ад штата Нью-Йорк.

■ Жыхары Вялікабрытаніі пачалі скупляць хлеб, малако, макароны, цукар. На мінулым тыдні ў многіх брытанскіх магазінах было ўведзена рацыяніраванне прадуктаў: у рукі давалі па 12 найменняў тавараў -- хлеба па 3 боханы, малака па 2 бутэлькі на чалавека. Англічане непакояцца, што з-за падаражэння бензіну не будзе завозу прадуктаў у магазіны.

■ Сям`я былога міністра ўнутраных спраў Беларусі генерала Юрыя Захаранкі, які прапаў у Мінску ў 1999 годзе, магчыма звернецца да ўлад Германіі з просьбай прадставіць палітычны прытулак.

■ У канцы верасня вядомая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, аўтар кніг «У вайны не жаночы твар», «Апошнія сведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», «Зачараваныя смерцю» і «Чарнобыльская малітва», на два гады пакінула Беларусь і зараз жыве ў Фларэнцыі (Італія). Напярэдадні ад`езду пісьменніца вярнулася з Японіі, дзе ўдзельнічала ў рабоце над фільмам «Маленькі чалавек і вялікая ўтопія». У фільме прадстаўлены лёс самой Святланы, пераплецены з лёсам герояў яе твораў.

■ У 2000-2001 навучальным годзе педагогі мінскіх устаноў адукацыі, якія фінансуюцца з гарадскога бюджэту, штомесяц будуць атрымоўваць матэрыяльную дапамогу ў памеры трох «мінімалак».

■ У Вялікабрытаніі ствараюць супрацьракавую вакцыну. Яна аказалася эфектыўнай у эксперыменце на мышах -- яе прымяненне спыніла рост усіх ракавых клетак. Клінічныя выпрабаванні пачнуцца ўжо ў канцы гэтага года. Для шырокай клінічнай практыкі вакцына стане даступнай не раней 2007 года.

### Дзетак стала менш

Сёлета ў Беларусі за парты ўпершыню селі 115 шасці- і сямігадовых вучняў -- на 12 тысяч менш чым летась. У 2004 годзе ў школу прыйдзе на 30% менш дзетак чым сёння. Каб забяспечыць настаўнікаў працай, Міністэрства адукацыі абяцае знізіць нормы напаўняльнасці класаў.

### У «гарачых» кропках Расіі гінуцьхлопцы

За апошні жнівеньскі тыдзень у розных рэгёнах Расіі загінула 28 супрацоўнікаў міліцыі. У сярэднім за тыдзень МУС губляе ад 7 да 15 сваіх падначаленых. 14 супрацоўнікаў з 28 загінула ў Чачні, яшчэ палова пры затрыманні ўзброеных злачынцаў.

### Па сельскай вуліцы з аркестрам

Аркестр народных інструментаў, створаны два гады таму назад пры Параф`янаўскім СД Докшыцкага раёна, стаў вядомы не толькі дома, але і ва ўсім раёне. Без яго не адбываюцца святы вёсак, традыцыйныя мерапрыемствы. Больш трыццаці дзетак вучацца ў музычнай школе пры сельскім доме культуры, а, значыць, аркестр будзе папаўняцца маладымі музыкантамі.

### Трагічнае здарэнне ў Дзеркаўшчыне

Жыла-была ў Дзеркаўшчыне Глыбоцкага раёна сям`я: Хаданёнак Мікалай, Ірына і іх сын, дзесяцігадовы хлапчук. І муж, і жонка любілі выпіць. Не аднойчы, пасварыўшыся, пускалі ў ход нажы. Ірына была парэзаўшы мужа, некалькі разоў спрабавала павесіць яго. У канцы верасня, добра падпаўшы, муж і жонка зноў пасварыліся. На гэты раз муж даказваў сваю правату з дапамогай нажа. Параненую ў сцягно жанчыну, забрала «хуткая». Ад згубы крыві, жанчына памерла ў Глыбоцкай бальніцы.





Фота Ул. Скрабатуна

Глыбокае. Рамантыка старых вуліц.

## Крадуць аўтамабілі

**За 7 месяцаў гэтага года ў Наваполацку ўкрадзена 27 аўтамабіляў і толькі адны «калёсы» вярнуліся да гаспадара.**

Сёлета ў Наваполацку здзейснена 9 забойстваў, тры з іх не раскрыты. Ёсць і іншыя, не надта суцяшальныя факты: 8 забойстваў з дзевяці здзейснены п`янымі. І калі летась у горадзе зарэгістравана 36 выпадкаў самазабойстваў, то толькі за першы квартал гэтага года - - 20.

*А. К.*

## Сын і маці задыхнуліся ў хаце

**У выніку пажару ў вёсцы Азіна Полацкага раёна загінулі два чалавекі.**

У хаце знаходзілася 51-гадовая жанчына. Муж і сын кінуліся ратаваць яе. У хаце было поўна дыму. Сын выпхнуў бацьку на вуліцу і рызыкаваў сам. Выбрацца з будыніны ні яму, ні маці не давялося -- абое атруціліся ўгарным газам.

## Рыначныя будні

**На другім тыдні верасня супрацоўнікі Полацкага міжраённага аддзела па арганізаванай злачыннасці, затрымалі двух нелегальных зборшчыкаў «аброку».**

Раней судзімыя палачане папаліся на рабаванні індывідуальнага прадпрымальніка, у якога яны ўкралі дыктафон коштам 450$ і сотню долараў «жывымі» грашыма. Узбуджана крымінальная справа.

*Г. Гагарын*

## Не вытрымала перакрыццё

**У магазіне «Бытавая хімія» г. Светлагорска абвалілася драўлянае перакрыццё над гандлёвай залай.**

Шчасце, што гэта адбылося ў абедзенны перапынак і людзей у магазіне не было.

## Спортклуб пачаў работу

**У Глыбокім акрамя секцыі японскага рукапашнага бою працуе дзіцячы клуб «Рынг», які размяшчаецца ў спортзале мясакамбіната.**

Да работы з дзецьмі 1986-1992 гг. нараджэння прыступіў вопытны трэнер В. Каляга. Раней ён кіраваў секцыяй боксу ў Падсвіллі і выхаваў нямала пераможцаў.

*У. Шык*

## «Вогненная» кантрабанда

**5 верасня супрацоўнікі Глыбоцкага РАУС і Полацкага міжрэгіянальнага аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю на трасе Полацк-Глыбокае, ля вёскі Гвараова, затрымалі аўтафургон «Івека», нагружаны 47-мю бочкамі спірту ёмістасцю 200 літраў кожная і аўтамабіль суправаджэння «Аўдзі 100».**

Спірт без патрэбных дакументаў «ехаў» у Літву. Сярод затрыманых тры «прадпрымальнікі» з Полацка, адзін з іх былы супрацоўнік Полацкага РАУС.

У ходзе аперацыі канфіскавана дзве радыёстанцыі і 980 долараў. Узбуджана крымінальная справа.

## Самы ходавы тавар

**У Мёрскім раёне, дзе пражывае 32 тысячы чалавек, у першым паўгоддзі 2000 года набыта алкагольных напояў на 336,1 млн. рублёў.**

На кожнага жыхара ў сярэднім прыходзіцца па скрыньцы віна, па 6 бутэлек гарэлкі і піва. Для параўнання, мяса было прададзена за адпаведны перыяд усяго 1,24 кг. на чалавека ці 6,8 грамаў у дзень. Значна менш, чым год назад, мёрцы сталі спажываць масла, сыру, яек, мукі. Пра аднаўленне ўласнага гардэроба і размовы няма. У раёне 14 калгасаў і саўгасаў, а таксама 8 прадпрыемстваў беспрыбытковыя.

*У. Шык*

## Гінуць дарослыя і дзеці

**4 верасня бліз Полацкага рынку ў Віцебску пад трамвай трапіла паджылая жанчына. Мінулым летам у Празароках Глыбоцкага раёна, дрэва, што звалілася са зруба хаты на будоўлі, забіла дзяўчынку.**

Сёлета пры правядзенні рамонтных работ у адным з цэхаў Глыбоцкага кансервавага завода смяротную траўму галавы атрымаў рабочы, які зваліўся з вышыні. У мірны час на Глыбоччыне з 1996 года загінула больш 400 чалавек, з іх 10 дзяцей. За паўгоддзе сёлета раён страціў 52 чалавек. Зарэгістравана 14 выпадкаў самазабойства праз павешанне, на якое рызыкнулі п`яныя.

*У. Шык*

## Браты-канакрады

**Звычай жыць на шырокую нагу, не прыкладаўшы пры гэтым асаблівых намаганняў, падвёў братоў з вёскі Бучэвічы Пастаўскага раёна.**

Спачатку ім удалося прадаць укадзенага з поля калгаса «Дружба» каня. Праз некалькі дзён яны перабраліся бліжэй да літоўскай мяжы і сцібрылі з фермы калгаса «Перамога» цяля вагой 270 кг, якога «загналі» за 50 тысяч рублёў. Грошы пайшлі на шыкоўнае застолле. Пасляўга аб урачыстасці пайшла па акрузе і дайшла да вушэй праваахоўных органаў. Узбуджана крымінальная справа.

*У. Шык*

## Самагубства

**30 чэрвеня ў вёсцы Каробчыцы Гродненскага раёна скончыў жыццё самагубствам генеральны дырэктар Гродненскага вытворчага тонкасуконнага аб`яднання В. Крупін, 1949 года нараджэння.**

Ён павесіўся на тэрыторыі дачнага ўчастка. У перадсмяротнай запісцы значылася: *«У маёй смерці прашу нікога не вініць».* Прычына здарэння высвятляецца.

У 70-80-ыя гады былі два выпадкі суіцыду ў год, пачынаючы з 90-ых гадоў -- 12. Чаму з такой лёгкасцю людзі развітваюцца са сваім жыццём?

*А. Баброў*

## На сваёй зямлі

**У адначассе пастарэўшай вёсцы Заборцы, што ў Докшыцкім раёне, пенсіянеры з цяжкасцю вырашаюць свае праблемы.**

І ўсё ж жыццё мала-памалу, але ідзе. Іосіф Багаткевіч сам зрабіў трактарок і дапамагае суседзям. На падвор`і Юрыя Паўлавіча ёсць міні-мельніца. Чацвёра гаспадароў набылі коней. Жывуць, працуюць пенсіянеры і, як могуць, дапамагаюць выжыць і дзецям, і ўнукам, што атабарыліся ў гарадах.

*У. Шык*

## Віной усяму трактарысты

**9 чэрвеня, вечарам, нецвярозы 26-гадовы трактарыст калгаса імя Даватара на полі ў Шаркоўшчынскім раёне пры запуску рухавіка трактара парушыў тэхніку бяспекі і трапіў пад задняе кола. Дастаўлены ў бальніцу.**

23 чэрвеня пенсіянер, жыхар Мінскай вобласці, кіруючы трактарам Т-16 па дарозе Глыбокае -- Паставы, ля вёскі Дунілавічы на пад`ёме дарогі не ўтрымаў руль -- трактар зваліўся ў меліярацыйны канал.

## Дзень пісьменнасці і друку ў Глыбокім.

Гэтае традыцыйнае для раёна мерапрыемства, якое праводзіцца ў першую нядзелю верасня, і сёлета рыхтавала Глыбоцкая раённая бібліятэка, раённы аддзел культуры, вучні гарадскіх і вясковых школ, супрацоўнікі Шунеўскай бібліятэкі. На свяце прагучалі ўзнёслыя словы аб творчасці Уладзіміра Караткевіча, была паказана інсцэніроўка, свае творы, гумарыстычныя і сур`ёзныя, вершаваныя і празаічныя чыталі Ганна Пяткевіч, Галіна Сутула, Уладзімір Сауліч, Фама Ляшонак, А. Жыгуноў. Для ўсіх прысутных цудоўныя беларускія песні спявала Тамара Калантай. Гледачы, якіх сабралася больш чым у мінулыя разы, нават пасля заканчэння мерапрыемства не спяшаліся разыходзіцца, што сведчыла аб сапраўдным светлым свяце, якое адбылося для душы.

*М. Карэцкі*

## Садам Сікоры — квітнець!

**У адчыненай год назад у сяле Малыя Алашкі Шаркоўшчынскага раёна хаце-музеі І. П. Сікоры 20 жніўня адбылося традыцыйнае народнае свята «Светлы яблычны Спас».**

Урачыстасць прысвячалася 115-ай гадавіне з дня нараджэння вядомага беларускага селекцыянера-садавода і вучонага І. П. Сікоры, які памёр 35 год назад. Дагэтуль дае плады цудоўны сад, які калісьці заклаў Іван Паўлавіч. Заслужаны аграном рэспублікі І. П. Сікора вывеў больш 500 гатункаў яблынь, некалькі дзесяткаў гатункаў груш, сліў, займаўся вывядзеннем руж, бэзу, ягаднікаў. Гатунак яго яблык «Памяць Сікоры» да цяперашняга лічыцца адным з лепшых на Беларусі

*У. Шык*

## Зноў праблемы з газам

**Увосень, як вядома, работ восем. І каб усё спраўна парабіць, трэба добра есці. Надыход апошняй восені другога тысячагоддзя, аднак, прынёс не толькі бясконцыя справы, але і праблему: на чым зварыць есці?**

Як бы нас не пераконвалі зверху, што Расія наша радня, што дбае пра нас беларусаў, рэальнасць пераконвае ў адваротным: дбаць можа і дбае, але спачатку пра сябе. Няма ў Беларусі чым плаціць і пастаўляць газу пачалі меней. Чаргі ў гарадах ужо трэба чакаць тры тыдні, на вёсках па месяцу і больш. Што ні кажы, а пад націскам падобных «зручнасцей» бытавая цывілізацыя ніцее -- нават у кватэрах многія пачынаюць рабіць печы ды пліты. Што будзе далей?

*М. С.*




Заснавальнік Пастаўскага выдавецка-інфармацыйнага цэнтра Міхась Гіль

2 верасня ў Паставах выйшаў першы нумар недзяржаўнай жаночай газеты **«Сяброўка»**. Тыраж 299 экземпляраў. Газета выдадзена намаганнямі мясцовага аб`яднання жанчын.

Сёлета ў райцэнтры пачалі выходзіць тры выданні дэмакратычнай арыентацыі: **«Крэсы»**, дадатак **«Краязнаўца Паазер`я»** і аднаўлены выпуск **«Сумежжа»**. Па словах заснавальніка і рэдактара выдання Міхася Гіля, на чарзе выпуск праваабарончага бюлетэня і літаратурна-мастацкага альманаха. Ну, а ў перспектыве -- выпуск агульнымі намаганнямі штотыднёвіка заходняга тыпу.

**Падумаем разам**

## Сын здзекуецца над маці

**У судзе Пастаўскага раёна нядаўна слухалася справа...**

**40-гадовы К., які не мае ні жонкі, ні дзяцей, увесь час здзекаваўся над сваёй ста-рэнькай маці.**

Заліўшы гарэлкай вочы, ён «біў маці па патыліцы, цягаў за валасы па двары, біў кулаком па галаве і галавой аб сцяну, хлястаў брудной трапкай па твары маці, пляваў ёй у твар, выліваў на яе памыі».

І жанчына не вытрывала. Перанесла і вайну, і акупацыю, а здзек сына роднага не сцярпела.

На судзе сын вякаў нешта незразумелае, імкнуўся апраўдацца, кляўся, што такое больш не паўтарыцца. Два гады, сапраўды, жанчына пажыве па-людску, а што будзе, калі гэты нелюдзь зноў выйдзе на волю?

Насцярожвае тое, што падобныя здзекі трываюць многія, трываюць, баючыся вынесці смецце з хаты, трываюць пакуль дзеянне не дойдзе да трагічнай развязкі. Што рабіць? Як папярэдзіць злачынства? Як ратаваць слабейшага ад раз`юшанага моцнага? Падумаем разам.

*М. Рачкоў, Паставы*

# Прадстаўнікі грамадскай арганізацыі Вроцлава ў Глыбокім


Фота Ул. Скрабатуна
Польскія госці ў Глыбокім

**29 жніўня Агнешка, Эва і Радэк, супрацоўнікі грамадскай арганізацыі «Дом спатканняў з Вроцлава», прыехалі ў Глыбокае. Гэтая арганізацыя створана ў 1989 годзе і займаецца распрацоўкай і ўкараненнем новых адукацыйных праграм. «Дом спатканняў» -- гэта месца сустрэч маладых ініцыятыўных людзей, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый розных краін, якія імкнуцца працаваць у адукацыйных накірунках; гэта двух-трохтыднёвыя сустрэчы-абмены, дзе моладзь не толькі набіраецца вопыту, але і бліжэй знаёміцца, культурна адпачывае.**

«Дом спатканняў» наладзіў кантакты з грамадскімі арганізацыямі Ірландыі, Нарвегіі, Швецыі, Францыі, Германіі, Галандыі, Іспаніі, Грэцыі. З 1999 года ўзніклі дзелавыя кантакты і з Беларуссю.

Дарэчы, маладыя палякі вельмі ўпадабалі ціхае, ўтульнае акуратна-прыгожае Глыбокае, якое ў параўнанні з семісоттысячным Вроцлавам нагадвае вялікае сяло. Праграма прыбывання ў Глыбокім была даволі насычанай.

Спачатку госці наведалі рэдакцыю незалежнай газеты «Вольнае Глыбокае», дзе пагаварылі з рэдактарам, паназіралі за працэсам выхаду газеты ў свет і вельмі дзівіліся, што газета рыхтуецца калектывам, дзе ўсяго чацвёра чалавек.

Экскурсія па гораду таксама адбылася. Палякі пабачылі мемарыяльную дошку ў гонар Тадэвуша Даленгі-Мастовіча, пабывалі на месцы, дзе будуецца нядзельная каталіцкая школа, наведалі касцёл, царкву, могілкі па вуліцы Горкага. Былі ў Глыбоцкім краязнаўчым музеі, у Доме рамёстваў. Палюбаваліся і падзівіліся майстэрствам педагогаў і выхаванцаў і выказалі жаданне наладзіць кантакты з гэтай установай і ў рамках адукацыйнага абмену накіраваць у Глыбокае групу польскіх дзетак, якія б навучыліся тварыць цуд з саломкі, тканіны, гліны.

Самыя добрыя ўражанні пра наш горад былі сапсаваны наведваннем рэстарана і беларускай кухні. Так, у рэстаране падалі меню, дзе на паперы быў вялікі выбар, а на справе аказалася наадварот. З цяжкасцю падабралі ежу для вегетарыянкі Агнешкі. У беларускай кухні, дзе палякі імкнуліся адведаць драных клёцак, бліноў ды грыбной поліўкі, нічога гэтага не было і ў паміне. Адзін летні расольнік. Нават салаты са свежай капусты ў жніўні месяцы не было. Адсутнічаў кампот з яблык - элементарнае, што павінна было быць на кухні з такой гучнай назвай. Ды і абслугоўванне проста смешнае: жменяй паклалі для ўсіх відэльцы, лыжкі, выгляд якіх жадаў быць лепшым. Гэта інфармацыя для роздуму адпаведным гарадскім службам: да нас прыязджаюць замежныя госці. Трэба наладзіць абслугоўванне так, каб не было сорамна за нас усіх, за наш горад.

Ну а зараз кароценькае знаёмства з польскімі прадстаўнікамі.

**Агнешка** самая старэйшая з траіх, ёй 26 год. Нядаўна скончыла факультэт паліталогіі Вроцлаўскага універсітэта. Работай задаволена. З зарплаты сакрэту не рабіла -- у месяц атрымоўвае 500 долараў. Бацькі жывуць у сельскай мясцовасці, вырошчваюць і прадаюць трускаўкі. Жывуць добра.

Агнешка мае малодшых сясцёр. Не замужам. Шчасце для яе заключаецца ў магчымасці свабоднага выбару, здароўі і добрых бацьках.

**Эва** вучыцца адразу на двух факультэтах універсітэта: на 3 курсе філалагічнага і на 5-ым сацыялогіі. Мае малодшую сястру-студэнтку. Знайшла сваё каханне ў Беларусі і тым шчаслівая. Не замужам.

**Радэк** студэнт другога курса паліталогіі і філасофіі. Мае малодшага брата і сястру -- яны школьнікі. Маці працуе медсястрой у прыватнага ўрача і мае ў месяц 2 тысячы злотых(500$). Дзеля тлумачэння, медсястра ў шпіталі мае 200$ у месяц, настаўнік 800. Сярэднемесячная зарплата ў Польшчы 1300$. Студэнты, якія добра вучацца, атрымоўваюць 80$ у месяц. У платных навучальных установах сума вагаецца ад 260 да 1500$ у месяц. Калі ў бацькоў заробкі на адну асобу складаюць менш чым 110$, вучні і студэнты атрымоўваюць сацыяльную дапамогу і меней плацяць за вучобу.

Але вернемся да Радэка. Ён з асаблівай цікавасцю знаёміўся з Глыбокім, бо яго дзядуля, Мечыслаў Врублеўскі, нарадзіўся і жыў тут да вайны. У 1944 годзе разам з польскай арміяй пакінуў Беларусь. Радэк ведае, што ў дзядулі быў сябар Данілеўскі, але, на жаль, ён не ведае ні вуліцы, ні прыкладнага месца дзе жыў дзядуля. Таму папрасіў нас звярнуцца праз газету да чытачоў «Вольнага Глыбокага»: можа хто з паджылых людзей ведаў **Мечыслава Врублеўскага** -- напішуце нам у рэдакцыю. А яшчэ Радэк вельмі б хацеў мець старыя фотаздымкі нашага горада. Як прыемна, што польска моладзь цікавіцца сваім мінулым, вывучае радавое карэнне. У такіх палякаў ёсць будучыня.

*М. Сельская,*
*г. Глыбокае*

---

У № 12(44) за чэрвень 2000 года мы адкрылі рубрыку

## «Як улада размаўляе з народам».

**Сёння мы працягваем пачатую некалі тэму і паказваем нашаму чытачу твар нашай дзяржавы, якую прадстаўляюць пэўныя асобы.**

19 верасня з вялікай тэмпературай і болем у сэрцы мяне даставілі ў прыёмны пакой Глыбоцкай райбальніцы. Дзве з паловай гадзіны я адгаравала ў чаканні двух патрэбных уколаў. Спрабавала дабіцца медыцынскай дапамогі раней, але дзяжурны ўрач Мацієўскі,які вельмі ганарыцца сваім медыцынскім дыпломам, мне адказаў: ***«Вы дома цярпелі двое сутак, што ж Вы хочаце, каб мы Вас вылечылі за пяць хвілін?»*** Гэта «філасофія» прафесійнай дзейнасці пачынаючага ўрача. А што адкажа і на якія суткі дапаможа гэты ўрач таму, хто ўжо не здольны пастаяць за сябе і патрабаваць?

20 верасня аб гэтай «дзейснай» дапамозе я паведаміла галоўнаму ўрачу Глыбоцкай бальніцы Котавай Н. Б., на што яна рэзка катэгарычна паведаміла: «Няпраўду Вы кажаце. **У мяне ўсё ёсць** (маецца на ўвазе лекі). **У маёй бальніцы,** ў адрозненне ад іншых, усюды належны парадак... А калі Вам трэба што ведаць пра нашу работу, пытайцеся **ў мяне, а не ў маіх дворнікаў** (напэўна, меўся на ўвазе падначалены медперсанал)».

Звярніце ўвагу на выказванне ўладнай асобы: **«У мяне ўсё ёсць... У маёй бальніцы...»** Дык што, можа Глыбоцкую бальніцу разам з урачамі і медсёстрамі Котава Н. Б. прыватызавала? І што значыць выраз **«У мяне ўсё ёсць?»** Калі мне ад сэрца не далі нават таблеткі валідолу ні капель валер`янкі ці карвалолу, то дзе ўсё ёсць?

І ці не збытала Котава Н. Б. кім яна кіруе? Калі пра ўсё, што адбываецца, трэба пытацца ў яе, і толькі ў яе, а не ў **«маіх дворнікаў»**, то можа Котава Н.Б. ўзначальвае камунальную гаспадарку? Толькі там і могуць быць дворнікі ў такой вялікай колькасці.

Дзяржава, у асобе вось такіх чыноўнікаў і пачынаючых «спецыялістаў» выклікае пачуццё агіды і крыўды за нас, грамадзян Беларусі, якім задаюць тон пачынаючыя няўмекі і эмацыянальна-недысцыплінаваныя, агрэсіўна-саманадзейныя асобы.

*Былая хворая*
*Г. Сутула*


Гэтая прыгожая царква гадоў дзесяць таму назад была ў руінах. Адбудавалася, аднавілася. Зараз яна стаіць у чыстым полі, непадалёк ад вёскі Дзедзіна, што па дарозе Глыбокае -- Галубічы. Раней на гэтым месцы была вёска Папоўшчына, якую знеслі ў час меліярацыйных работ. **Фота Ул. Скрабатуна.**

---

*Кур`ёзы нашага жыцця*

# Мы сок умеем піць толькі са слоікаў

У прыватнай краме 4-гадовая дзяўчынка тузае маці за рукаво і нешта просіць. Тая, пераканаўшыся, што адчапіцца не атрымаецца, папрасіла прадаўшчыцу: «Дачушка піць хоча, што ў вас ёсць?» Прадаўшчыца, якая не мела соку ў традыцыйных «савецкіх» слоіках, падала стограмовы папяровы пакецік з напіткам, які трэба піць праз трубачку. Маці падала дзяўчынцы сок, але тая адвярнулася ад яго, адступіла назад, хаваючыся за маці. Было бачна, што дзіця нават не ўяўляе, што сок можа быць у папяровай карабачцы, што яго можна пакрысе, няспешна пацягваць праз трубачку, а не піць кубкам ці са слоіка. І як не ўгаворвала яе маці, прадаўшчыца і пакупнікі пакаштаваць гэтую «смакату», дзяўчынка піць адмовілася. У яе вачанятах чыталіся і страх, і крыўда за тое, што дарослыя людзі прапануюць ёй нешта незразумелае. Яна можа б і паспрабавала, але баіцца, бо не ведае што гэта за дзіва; яна можа і глынула б, зглздзіўшыся на ўгаворы, але не ведае, як гэта робіцца -- страшна, каб не абсмяялі. І крыўдуе да слёз на маці за тое, што яна не разумее...

Звычайны, здавалася б, выпадак, але ў ім -- сутнасць нашага жыцця: мы жывём, як дзікуны, не ведаючы элементарнага, таго, што ва ўсіх цывілізаваных краінах норма.

---

*Радкі з канвертаў*

## У люкс без дазволу?

Нядаўна да мяне прыехалі госці з Польшчы. Цэлая сям'я. І паколькі мая аднапакаёвая кватэра не можа змясціць 6 чалавек, мы дамовіліся, што госці пажывуць колькі дзён у Глыбоцкай гасцініцы. Днём будзем разам, а вечарам разыдземся. Паколькі мае госці ехалі з ужо еўрапейскай па ўкладу жыцця краіны і мелі пры сабе грошы, яны пажадалі пасяліцца ў нумарах люкс. Я не ведала нават ці ёсць такія ў нас у гасцініцы, таму папярэдне патэлефанавала. Люксы, аказалася, былі. Вось толькі, каб патрапіць туды мала заплаціць (гэта ва ўсім свеце з грашыма будзеш мець, што хочаш). Трэба яшчэ ісці на прыём да старшыні райвыканкама і ў яго прасіць дазволу там пасяліцца. Ад такой навіны ў мяне і мова прапала.

У Беларусі ранейшы камуністычны застой, а ніякая не дэмакратыя. Пры бальшавіках адным былі люксы, другім падвалы і цяпер тое ж. Гэта я павінна аддаваць паўдня, прасіць месца ў гасцініцы за свае грошы ды адрываць па такой дробязі старшыню. У яго што больш важных спраў няма? Хацела я дапытацца ў адміністратара гасцініцы хто, калі, за чыім подпісам аддаў падобны абсурдны загад, але тая не стала са мной размаўляць. Цяпер гляджу, нашу гасцініцу ў гатэль перарабілі. А што карысці? Адным гатэль з усімі выгодамі, а другім -- гасцініца з абмусоленымі шпалерамі, абарванымі шторамі, з пакоямі так, падобнымі на турэмныя камеры.

*Т.Ф. Ерафеенкава,*
*г. Глыбокае*

---

## Цыганка --раз, цыганка--два

**У Барысаве дзве цыганкі сярод белага дня абабралі дзевяцікласніцу. 15-гадовай дзяўчынцы варажбіткі прапанавалі расказаць пра яе лёс.**

Каб прагноз быў больш дакладным, яны папрасілі пакласці на руку залатыя рэчы. Відаць, без гіпноза не абышлося, бо пасля варажбы зніклі тры пары залатых завушніц, кулон і некалькі манет царскай чаканкі, 40 долараў і 5 тысяч «зайчыкаў».

*А. Страпалёў*

**Прырода і мы**

# СУСТРЭЧА НА ВОЗЕРЫ



Летнім ранкам я плыла па возеры на лодцы. Было ціха, сонейка толькі-толькі ўздымалася над краем прыбярэжнага лесу. Нечакана, на прагаліне, у трыснягу, я ўбачыла качку з качанятамі. Качка моцна кракнула, і ўсе дзеткі раптоўна зніклі, быццам растварыліся ў вадзе -- я нават не паспела іх пералічыць. Стала прыглядацца: «Дзе ж яны пахаваліся?» І ўбачыла-такі аднаго! Качка трымалася на невялікай глыбіні, учапіўшыся дзюбай за водарасці і ледзь-ледзь варушыла лапкамі, каб утрымаць раўнавагу. Дык вось як яны хаваюцца! Я хацела пашукаць і іншых малышоў, бо было іх не менш дзесятка, але шкада стала птушкумаці: яна ўвесь час трывожна кракала, нібы папярэджваючы сваіх дзетак: «Небяспека, не вылазьце, не паказвайцеся» -- і кружыла каля лодкі, усім сваім выглядам старалася прыцягнуць маю ўвагу да сябе. Здавалася, што яна вось-вось дасца мне ў рукі абы я не чапала яе дзетак. Зразумеўшы, я стала адплываць. Некаторы час качка плыла наперадзе лодкі, адводзіла мяне ад месца, дзе схаваліся качаняты, а потым вярнулася да прагаліны ў трыснягу. Здалёк я назірала за ёй. Вось яна зноў моцна кракнула, і з усіх бакоў да яе сталі падплываць дзеткі. Яна, ўвесь час азіраючыся на мяне, хуценька скіравалася ў трыснёг, прапускаючы вывадак наперад, у гушчар, трывожна кракала, нібы гаворачы ім: «Хутчэй, хутчэй!»

Праз хвіліну ўся сям'я схавалася, і толькі па шэлесту трыснягу можна было здагадацца, куды паплыла сямейка.

*С. Табола*



## Прадказанні і прадказальнікі

Не толькі прафесійныя варажбіты могуць адгадваць будучыню. У старажытнасці да празорцаў адносілі паэтаў. Факты сцвярджаюць, што паэты могуць прадказаць у вершах сваю ўласную смерць. Так, Андрэй Белы, які пісаў: «Я умру от солнечных стрел» сапраўды памёр ад сонечнага ўдару. Сваю смерць у вершах прадказаў і Мікалай Гумялёў. А вось празаікі могуць прадказаць чужую гібель -- як правіла, гэта масавая гібель у аварыях і катастрофах. Так, у рамане Моргана Робертсана «Тщетность», апублікаваным у 1898 годзе, апісана гібель ад сутыкнення з айсбергам трансатлантычнага парахода «Тытан». Усе дэталі рамана супалі з рэальнымі дэталямі гібелі «Тытаніка», якая адбылася праз 14 год пасля выхада кнігі Робертсана.

*Я. Манастырская*
«Віцебскі кур'ер»



**Адгукніцеся, рыцары!**




## Такое непатрэбнае жыццё

64-гадовая жыхарка Пастаў нядаўна развіталася са сваім жыццём, скочыўшы ў калодзеж. 57-гадовы мужчына з Варапаева звёў рахункі з жыццём з дапамогай паляўнічага ружжа. Не давезла да бальніцы «хуткая» і 36-гадовага жыхара вёскі Апідамы, які таксама выстраліў у сябе. Часценька думка аб самагубстве прыходзіць у п'яныя галовы. Толькі на Пастаўшчыне за апошнія чатыры з паловай гады ад перадазіроўкі алкаголю загінула сотня чалавек.

*У. Шык*

# Бясплатныя прыватныя абвесткі

**Прадам саджанцы гатунковай буйной вішні.**
**Звяртацца па адрасу: г. Глыбокае, вул. Кірава, 39**

***

**Прадаецца дом з гаспадарчымі пабудовамі, нядорага ў в. Міхайлаўка (прыгарад Глыбокага).**
**Тэл. у Глыбокім 2 35 37**

***

**Прадаецца хата ў вёсцы Завараты.**
**Ёсць студня, сад, хлеў. Кошт па дамове.**
**Звяртацца на адрас: Глыбоцкі раён, 211821, п/а Дзеркаўшчына, в. Латыголь, Лупач Уладзімір Зыгфрыдавіч.**

***

**Прадаецца BMW-524 Турба-дызель, 1983 года выпуску ў добрым стане, рухавік 1990 года. Цэнтральны замок, люк, гідраўзмацняльнік руля. Расход паліва -- 7 л. на 100 км. Кошт па дамове. Тэлефанаваць у Глыбокім 2 37 54.**

***

**Прадам або абмяняю коней на аўтамашыну «Жыгулі» Пісаць на адрас: Феакціст Фядотаў, в. Дубнякі, Вароніцкі сельсавет, Полацкі раён або тэлефанаваць у Наваполацк па нумары 8-(244) 2 85 18 з $20^{00}$ да $21^{00}$.**

***

**Будую хаты, гаражы, хлявы, падмуркі, платы з каменя Тэл.: 2 37 54 (у Глыбокім)**

***

**Тэрмінова прадаецца легкавы дызельны аўтамабіль Mitsubishi -- Colt 1986 г. выпуска. Пяціступеньчатая КПП, аб'ём рухавіка 1,8. Звяртацца па тэлефоне 2 12 74 (у Глыбокім).**

***

**Жадаючыя атрымаць новую кнігу славутага Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленка, п/с 268, 220131, Мінск-131. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Мінску кнігу можна набыць ў сядзібе Таварыства беларускай мовы: Мінск, вул. Румянцава, 13.**



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

З інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў Вы зможаце звярнуцца да прадстаўнікоў Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека ў Глыбокім: **2 37 54, 2 19 38;** у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна **2 31 11**; у Паставах **2 27 58.** Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць і бясплатную юрыдычную кансультацыю і канкрэтную дапамогу.

***

**Паважаныя былыя выпускнікі Дзісненскай школы-інтэрната!**

Адгукніцеся на адрас: в. Заазерцы, Шаркоўшчынскага раёна, тэл.: 2 31 11, **Табола Соф'я Міхайлаўна.**

## Жывы факел

Першы школьны дзень верасня адзначыўся не толькі ўрачыстымі лінейкамі і галасістымі званкамі, але і новымі трагічнымі здарэннямі. Гомельская пяцікласніца 1 верасня ў школу не трапіла не таму, што прагульшчыца, а таму што ляжала ў бальніцы з апёкамі другой і трэцяй ступені. Напярэдадні над ёй «пажартавалі» два шасцікласнікі: яны аблілі дзяўчынку спіртам і падпалілі. У міліцыі хлапчукі растлумачылі прычыну свайго ўчынку: «Хацелі паглядзець, як гарыць спірт».

## Школьнік -- рэкецір

Дзевяцікласнік цэлы месяц пужаў сямікласніка, біў яго і патрабаваў, каб той прыносіў яму па 50 долараў. Хлапчук трываў пабоі і здзекі пакуль бацькі не заўважылі, што іх зберажэнні зменшыліся на 600 «зялёных». Бацькі звярнуліся ў міліцыю і «рэкеціра» арыштавалі.

**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**


*«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»*
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб'ём -- друкаваны аркуш. Падпісана ў друк 8 кастрычніка 2000 года ў 13-25.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор мятэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 6075